ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1757) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 14 СТУДЗЕНЯ 1990 г. ЦАНА 400 зл.



ЗІМОВЫ БЯРЭЗНІК. Фота Л. Тарасэвіча.

## ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

ЛЯВОН КРЫВІЦКІ

Францішак Аляхновіч належыць да тых дзеячоў беларускай культуры, якія доўгі час былі ў забыцці. На гэтае забыццё мелі рашаючае ўздзеянне перыяд сталінскага тэрору і гады застою. Пра Аляхновіча не ўпаміналася ні ў школьных падручніках, ні ў дапаможніках для вышэйшых навучальных устаноў. Не быў ён прадметам даследавання нашых літаратуразнаўцаў, не трапіў таксама на старонкі энцыклапедычных выданняў. А яго ўклад у беларускую літаратуру, галоўным чынам, драматургію, ды праца над станаўленнем беларускага прафесійнага тэатра дастаткова значныя.

У нас мала крыніц, дзе можна было б пазнаёміцца з яго жыццяпісам і літаратурнай спадчынай, асабліва такіх, якія б ахоплівалі ўсё яго жыццё. Пра Аляхновіча згадваў класік беларускай літаратуры і першые гісторык Максім Гарэцкі яшчэ ў пачатку дваццатых гадоў. Падборка яго твораў і кароткі, вельмі схематычны нарыс пра яго маецца ў „Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры" Ігната Дварчаніна, выдадзенай у Вільні ў 1927 годзе. Там адзначаецца, што творчасць Аляхновіча адносіцца да перыяду апошніх гадоў гэтак званай „нашаніўскай пары", што ён па паходжанні і па характары літаратурнай творчасці належыць гораду, у адрозненне ад іншых нашаніўцаў, якія пераважна малявалі вясковае жыццё.

Яго драматычныя творы, што выдаваліся пераважна ў Вільні, а таксама, бадай, ці не адзіная, аповесць біяграфічнага характару, зрабіліся сёння бібліяграфічнай рэдкасцю.

Францішак Аляхновіч нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні, у сям'і нашчадкаў дробнай беларускай шляхты. Дзед нашага драматурга, Іван Аляхновіч, паходзіў з-пад Радашковіч. Ён быў дужа таленавітым чалавекам, самавукам, маляваў і добра іграў на скрыпцы. З маладых гадоў, іграючы на розных вяселлях і ўрачыстасцях, занядбаў сваю невялічкую гаспадарку, а потым і зусім згубіў сваю маёмасць ды пераехаў на сталае жыццё ў Вільню. Улетку зарабляў на пражыццё сваёй сям'і малярскаю працай, а ўзімку займаўся выключна ігрой на скрыпцы. Меў ён чатырох дачок і толькі аднаго сына Караля, бацьку нашага пісьменніка. Дзед дужа любіў свайго адзінага сына і перадаў яму сваё мастацкае ўменне граць на скрыпцы. Пасля смерці дзеда, бацька драматурга Кароль Аляхновіч пачаў граць у віленскіх тэатрах, выязджаючы кожнае лета з аркестрам на курорт у Друскеніках. У Вільні ажаніўся ён з Марыяй Марковіч, паходзіўшай з дробнай беларускай шляхты з-пад Гедрайчай, і ад гэтага шлюбу нарадзіўся наш Францішак Аляхновіч.

Калі Францішку споўнілася 5 гадоў, бацька першы раз узяў яго ў тэатр. Потым гэтыя наведванні сталі рэгулярнымі. Хлопец знаёміцца з жыццём за кулісамі і з часам пачынае марыць, каб самому стаць акцёрам.

Вучыцца Аляхновічу давялося, як і большасці беларускай інтэлігенцыі таго часу, у рускай школе. Да таго ж і ягоныя мары аб тэатры адварочвалі яго ад школьнае навукі. Першыя гады навучання Францішак Аляхновіч пад доглядам і прынукай рэпетытара яшчэ сяк-так вучыўся, але ўжо ад чацвертага класа гімназіі і рэпетытар не мог дапамагчы. У 4-ым і 5-ым класах другое Віленскай гімназіі ён прасядзеў па два гады. З усіх навучальных прадметаў ён тады шчыра захапляўся толькі адным маляваннем. Калі ўсе педагагічныя захады і ўздзеянні былі вычарпаны, педагагічная рада не прыдумала нічога іншага, як выключыць Францішка з гэтае гімназіі, як „няздольнага вучня".

У галаве хлопца ўжо даўно сядзела думка аб драматычнай

(Працяг на стар. 6)

Беларускія мастакі

## ШЛЯХ ДА СОНЦА — ПРАЗ СЭРЦА

Які ідэальны ўзрост для творчасці? Кожны адкажа на гэтае пытанне па-свойму і... будзе мець рацыю. Мы ж хацелі б далучыцца да тых, хто называе тут узрост Хрыста — 33 гады. Бо сапраўды ж — ужо адыходзіць безразважная апантанасць маладосці, але яшчэ далёка да мудрага практыцызму сталасці. Яшчэ цягне да чагосьці неверагоднага, да першаадкрывальніцтва, а разам з тым ужо ёсць вопыт, ужо выбраная мэта жыцця, выпрацаваная пэўная іерархія каштоўнасцей.

У трыццаць тры, бадай, кожная асоба можа цвяроза ацаніць, што зроблена і наколькі яшчэ хопіць сіл.

33 — гэта Эверэст для творцы, але кожны ідзе да яго сваім шляхам. Адных заўважаюць трохі раней, часам значна раней, і да 33-х яны паступова акліматызоўваюцца ў карыфеях. Другія... Вось да гэтых другіх, відаць, і належыць малады беларускі мастак Сяржук Крыштаповіч. Яму акурат зараз 33.

Што, не чулі такога імя? Дый нядзіўна. Прэса зусім нядаўна і неяк раптоўна, нечакана загаварыла пра яго, без падрыхтоўчых інфармацый. Але яшчэ большая нечаканасць была, калі нікому невядомы беларускі мастак атрымаў Залаты медаль Акадэміі мастацтваў СССР за сваю дыпломную работу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (1988).

Праўда, не трэба думаць, што гэта нейкая іронія лёсу. Работа сапраўды знакамітая. Не проста студэнцкія практыкаванні, а маштабны, прадуманы, завершаны твор мастацтва — манументальны роспіс хола ў школе імя М. Чэпіка (вёска Блужа Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці).

Твор гэты атрымаў назву „Шлях маці". Ён грандыёзны не толькі па аб'ёму (каля 300 квадратных метраў), але і па задуме. І хоць Сяржук ведаў, што Мінскі абком камсамола Беларусі заказаў у яго роспіс да адкрыцця музея героя афганскай вайны, але не пайшоў тым простым шляхам, калі пад любую ваенна-патрыятычную тэму нагрувашчваюць танкі, шаломы

(Працяг на стар. 7)

## НА МЯЖЫ

Варта задумацца над тым, якую паставу павінна заняць Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў перыяд спроб стварэння беларускіх партый. Здаецца мне, што наша арганізацыя ў ніякім выпадку не павінна імкнуцца да таго, каб стацца палітычнай партыяй. БГКТ павінна застацца беларускай нацыянальнай арганізацыяй, якая будзе канцэнтравацца на культурнай дзейнасці, на абароне беларускай мовы, на захаванні нашых традыцый і фальклору, на ўмацаванні беларускай нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай годнасці і гордасці.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства гэтыя мэты будзе старацца рэалізаваць у супрацоўніцтве з такой сур'ёзнай і пабрацімчай сілай, як праваслаўная царква, і з усімі беларускімі арганізацыямі, якія могуць узнікнуць у Польшчы. Сур'ёзныя надзеі спалучаем таксама з супрацоўніцтвам з таварыствам „Радзіма" ў Мінску і з Фондам беларускай культуры ў Гродне, з якім мы падпісалі вельмі карысны для нас план супрацоўніцтва на 1990 год. Верым таксама ў добрыя вынікі новых нашых адносін з беларускай эміграцыяй. Выключная ахвярнасць беларусаў з Амерыкі, Канады, Аўстраліі і Англіі на карысць пабудовы Беларускага музея настройвае аптымістычна. Бадай, што найбольш нашага адабрэння і захаплення выклікаў прыезд на Беласточчыну танцавальнага калектыву з Нью-Йорка „Васілёк" і выдатнага спевака Данчыка. Кантакты з беларускай эміграцыяй карысныя для нас і з тае прычыны, што, кантактуючыся з ёю, мірна канфрантуем погляды двух супрацьстаўных дагэтуль светаў, якія ідуць у напрамку агульначалавечага адзінства.

# КЛОПАТЫ І ДЫЛЕМЫ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

Вяртаючыся да спецыфікі нашага Таварыства, хачу падкрэсліць, што дзейнасць наша сёння і заўтра будзе праводзіцца ва ўмовах, намнога больш цяжкіх, чым было дагэтуль. Праўдападобна, не будзем мець дзяржаўнай датацыі на штаты, на аплату за будынкі Таварыства ў Беластоку, Варшаве, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Гданьску. І нават калі б пацвердзіліся інфармацыі, што на працягу года атрымаем яшчэ датацыю такую, як у мінулым годзе, дык беручы пад увагу страшэнную інфляцыю, яе вартасць будзе прыблізна тры або і пяць разоў меншай. Зразумела, што ў такой сітуацыі будзе нялёгка ўтрымаць той фронт дзейнасці, які мы вялі дагэтуль.

Які ж выхад з такога стану? Толькі адзін. Мы вымушаны працаваць па-новаму, каб захаваць увесь той стан, які маем сёння. Маю на думцы нашы будынкі, машыны, мэблю, пішучыя машынкі. Трэба таксама прадаўжаць найважнейшую нашу інвестыцыю — Беларускі музей. Павінны мы працягваць выдаванне „Нівы", „Беларускіх календароў" і твораў нашых аўтараў.

Усё гэта можа стаць магчымым толькі тады, калі ўдасца нам разгарнуць гаспадарчую дзейнасць. Без яе Таварыства не здолее існаваць як самастойная незалежная арганізацыя, якая атаясамліваецца з інтарэсамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Неабходна нам усім прызвычаіцца да думкі, што аб уласным лёсе мы павінны клапаціцца самі.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства яшчэ ніколі не знаходзілася ў такой складанай сітуацыі, як сёння. Можа нас выратаваць толькі выключная згуртаванасць. Калі спалохаемся цяжкасцей, згінем.

Вакол нас пачынаюць узнікаць палітычныя беларускія рухі. Верым, што яны не толькі не перашкодзяць дзейнасці нашай арганізацыі, але яе ўзмоцняць. Няхай розныя ініцыятыўныя групы ствараюць атмасферу абароны беларускасці на ўсходняй Беласточчыне. І толькі тады, калі ўдасца нам захаваць сваё адвечна нацыянальнае аблічча, мы зможам годна і горда глянуць у твар нашым суседзям і сказаць ім: мы роўныя з вамі.

**Алесь Баркі**



### НАЛАДЗІЦЬ СУЖЫЦЦЕ

Тэлевізійная „Адкрытая студыя" 8/9 снежня мінулага года ўсхвалявала тысячы, а можа нават сотні тысяч грамадзян Польшчы. Адны ў тую ноч увогуле не змаглі заснуць, другія ўпершыню адкрылі вочы на затойванае пытанне. Не памылюся, мабыць, гаворачы, што большасць з нас, якія аддалі свае сілы сумленнай працы для дабра краіны і, асабліва, ідэалам мацавання добрасуседскіх адносін, бышчам адурманеныя, раздумваюць над сэнсам свайго жыцця. Ці не лепш было замест працы ў школах, бібліятэках, установах дзяржаўнай і партыйнай адміністрацыі ці ў прамысловасці круціцца вакол прыватнага гандлю і спекуляцыі! У адных — марнеючая залатоўка і казённыя кватэры, у другіх — долары, золата, дамы, замежныя аўтамашыны.

Трэба заўважыць, што перадача, незалежна ад усяго, зрабіла для нас добры пачатак для дзейнасці ў напрамку абуджэння нацыянальнай свядомасці. Дагэтуль БГКТ ніколі сур'ёзна гэтай справай не займалася. Таму запачаткаваную ўжо на старонках „Нівы" дыскусію прапаную прадоўжыць, падсумаваць і паставіць пад абмеркаванне на чарговым пленарным пасяджэнні ГП. Важна гэта і таму, што ўжо пачалася падрыхтоўка да выбараў у органы мясцовых уладаў, а мы гэтага факту ізноў бышчам не заўважаем. Відаць, хочам прайграць чарговы раз (цяпер супольна з беларускімі правымі і левымі партыямі), каб магчы потым супольна заспяваць „Ад веку мы спалі".

Нацыянальнаменшасную праблематыку ў Польшчы можна падзяліць на тры катэгорыі. Першую складаюць грамадзяне няпольскай нацыянальнасці, якія аказаліся тут з-за палітычных, эканамічных, сямейных ці іншых абставін. Яны хочуць асіміляваіца і не хочуць захоўваць сваю тоеснасць. Адчуваюць сябе ў залежнасці ад адносін бліжэйшага асяроддзя: або добра (грэкі, венгры, балгары), або дрэнна (цыгане, арабы, рускія). Усе яны, незалежна ад уласнага пачуцця, у маштабе краіны не з'яўляюцца праблемай.

Да другой катэгорыі залічыць можна нацыянальныя меншасці, якія кампактна пражывалі (пражываюць!) на акрэсленай этнічнай тэрыторыі, але ў выніку спецыфічных пасляваенных абставін аказаліся ў варожых адносінах да большасці, якая далей выразна выказвае да іх непрыязнасць. Напрыклад, немцы і ўкраінцы. Розніц паміж імі многа, але ўсе яны былі вымушаны пакінуць сваю тэрыторыю. Незалежна ад мясцажыхарства і рэпрэсій, яны шчыра працавалі, загаспадароўвалі знішчаную краіну. Тым часам адносіны да іх, як уладаў, так і грамадзян вельмі дрэнныя. Чаму? Дзякаваць трэба ім за працу ў неспрыяльных умовах. Апошнім часам падагравaецца яшчэ неастыўшая мінуўшчына, што балюча ўспрымаюць нацыянальныя меншасці, якія страцілі вельмі многа, але захавалі гонар.

Урэшце, трэцюю катэгорыю нацыянальнаменшаснай праблематыкі стварылі беларусы, літоўцы, чэхі. Пакінем іншых, каб заняцца сабою.

На першы погляд здаецца, што тут вырашана ўсё магчыма і што, зразумела, у гэтым заслуга большасці. Беларусы атрымалі магчымасць выйсці з перанаселеных вёсак, здабыць прафесію і працу, нават на найвышэйшых функцыях уключна. Развіваецца нацыянальная асвета, культура, дзейнічае БГКТ, выходзіць тыднёвік „Ніва".

Калі аднак прыглядзецца лепш, то заўважым, што ўсё гэта трэба было вырываць, быццам з кіпцюроў, або ласкава выпрошваць. Адно і другое пярэчыла характару народнай улады, якая гэтыя „здабыткі" павінна сама ўводзіць. Гэта праўда, што беларусы актыўна ўключыліся ва ўсе пераўтварэнні народнай улады, а яна мэтанакіравана пазбаўляла тэрыторыю беларускага насельніцтва. Зараз усё часцей гаворыцца аб тэндэнцыйным гаспадарчым занядбоўванні мясцовай сельскай гаспадаркі, дробнай прамысловасці, вынішчэнні лясоў, асабліва Белавежскай пушчы. Спачатку паўднёвы ўсход Беласточчыны называўся „капальняй кадраў", пасля абшарамі „старэння вёсак", а зараз „усходняй сцяной". Спустошэнні ў нацыянальнай субстанцыі — гэта вынік аднабаковага разумення інтэрнацыяналізму. Многія беларусы, якія мігравалі ў гарады, пад уздзеяннем непрыхільнага ім асяроддзя самазаканспіроўваліся і выходзіць з гэтага маразму ўжо не маюць сілы. Цешацца нават з таго, што не атрымліваюць пісем, загадваючых пакінуць Польшчу, лістоў са смяротнымі прысудамі за сімпатыю да Ўсходу, як гэта рабіла польскае падполле ў 1945—50 гады.

Насоўваецца пытанне, ці мясцовым уладам патрэбны толькі людзі як вытворчы патэнцыял у сельскай гаспадарцы, ці тэрыторыя, на якой яны пражываюць? Зараз ніякіх асіміляцыйных мэтаў дасягнуць ужо нельга з увагі на агрэсіўнасць „Салідарнасці" і негатыўныя адносіны да яе дзейнасці прыгнятаючай большасці беларускага насельніцтва. Пытанне, ці новыя тэрытарыяльныя ўлады змогуць наладзіць сужыццё, — застаецца без адказу. А хацелася б гэта ведаць перад выбарамі.

**У. Юзвюк**

### НЕ ЗАБУДЗЕМ!

У адзін восеньскі вечар мінулага года адбылася сустрэча нарвежскай моладзі з моладдзю Старога Беразова. Напераклад усім, хто гаварыў: „У Беразова не едзем, там малы клуб, не памесціць усіх". А ён памясціў 28 нарвежскіх дзяўчат і ўсю моладзь вёскі. Для ахвотных — няма перашкод! Нарвежскія студэнткі прабывалі ў нас некалькі дзён. Былі яны на Беласточчыне на экскурсіі. У Беразове затрымаліся на начлег. Вядома — у знаёмых, у Дзенісюкоў. „Раздзялілі" мы гасцей па хатах і гасцявалі. Мы народ гасцінны, платы не пытаем.

Дзяўчаты зрабілі нам „запазнаўчы вечар". Іх ініцыятыва, іх скромны пачастунак. Нашыя — прыемнасць, радасць і на доўгі час сардэчныя ўспаміны. Дзяўчаты пяклі гофры (вафлі), мазалі іх джэмам і частавалі прысутных. Быў яшчэ ліманад, казіны сыр. Не хапала толькі супольнай мовы! Пайшлі ў рух рукі. Адна дзяўчына ўзяла сцяжок і сказала: „Нарвэгэн". Пачалі спяваць дзяўчаты. Спявалі паважна і аддана — гэта гімн Нарвегіі. Папрасілі нас заспяваць гімн Польшчы. Госці прыгожа спявалі, але ў нашых ішло тугавата. Нашыя старэйшыя жанчыны не вытрымалі: „Давайце заспяваем нашую супольную застольную!" І пачалося. Прыйшла перакладчыца, чэшка. Ад радасці за нашу песню цалавала ўсіх, а потым... гарэлкай сваёй частавала. Ну, нарвежскай. Аднолькава галаву замарочвае. Толькі мацнейшая, кветкамі пахне, і па менш яе наліваюць. А адкуль я ведаю? Быў там! Спяваць памагаў. Пачастунку скаштаваў. І, каб жонка не чула, пацыху скажу: пацалунак атрымаў.

Потым танцы былі, на панадворку. Тэхніка іграла на ўсю вёску. Вечар цёплы, як пад заказ. Калі глядзіш на вясёлую моладзь, думаецца: „Вось, мову супольную знайшлі. Каб толькі спакой на зямлі і больш такіх сустрэч!"

**Г. Мароз**

## У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ

**Настаўнікі беларускай мовы ад пачатку існавання школ, у якіх навучаецца родная мова, звярталі вялікую ўвагу на патрэбу падрыхтоўкі і выдання школьных дапаможнікаў і метадычных матэрыялаў для навучання гэтага прадмету.**

**У 1969 годзе ГП БГКТ** прапанавала выдаць „Метадычны параднік да навучання беларускай мовы ў пачатковай школе". Да рэалізацыі гэтага задання быў створаны калектыў і апрацаваны быў план зместу. Нашыя прапановы былі падтрыманы Міністэрствам асветы і вышэйшай адукацыі ў 1972 годзе і Міністэрствам асветы і выхавання ў 1986 годзе. Шкада, што вопытныя настаўнікі беларускай мовы, добра падрыхтаваныя мерытарычна і метадычна, не ўключыліся ў рэалізацыю такога важнага задання.

Трэба вельмі горача падзякаваць настаўнікам Ларысе і Сцяпану Бурылам за падрыхтоўку „Метадычнага парадніка да Буквара А. К. Клышкі", выдадзенага Выдавецтвам школьным і педагагічным у 1988 годзе. Дапаможнік складзены ў адпаведнасці з праграмай заняткаў па беларускай мове ў пачатковай польскай школе. У гэтым дапаможніку настаўнікі знойдуць метадычныя правілы, як праводзіць заняткі па беларускай мове ў другім класе, паказальныя канспекты ўрокаў і планы заняткаў, літаратуру для лепшай падрыхтоўкі і правядзення ўрокаў. Аўтары дапаможніка выкарысталі дасягненні сучаснай метадычнай навукі, а таксама свой багаты практычны вопыт. Заахвочваю ўсіх настаўнікаў роднай мовы карыстацца дапаможнікам.

Праца Л. і С. Бурылаў павінна заахвоціць іншых настаўнікаў пачатковых школ і ліцэяў да апрацоўкі метадычнага дапаможніка да навучання беларускай мовы ў старэйшых класах пачатковай школы і ў сярэдніх школах. Апрача гэтага задання чакае яшчэ нас апрацоўка дапаможных матэрыялаў і метадычных указанняў для настаўнікаў па роднай гісторыі. Заняткі па гісторыі неабходны для лепшага пазнавання роднай культуры ў шырокім значэнні: мовы, мастацтва, літаратуры, гісторыі, фальклору, традыцыі свайго народа. Цётка (цытую за аўтарамі дапаможніка) пісала: „Бедны той, хто... не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее — гэта любоў да бацькаўшчыны, да свайго народа, да роднай мовы".

Згодна з ранейшай пастановай, Міністэрства народнай адукацыі чакае аўтараў для апрацоўкі падручніка па беларускай гісторыі. Думаю, што на апрацоўку такіх важных матэрыялаў дзеля агульнай справы ў нашай народнай адукацыі, чакаць так доўга не будзем, як гэта бывала.

**Янка Зенюк**



*СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ. Старая студня. Паўночны Востраў. Мал. У. Петрука.*

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## МАЛАДЫЯ

— Не жаніцеся, дзеці, — прасілі бацькі, калі пачулі аб тым, што Вацэк і Моніка хочуць узяць шлюб. — Вам усяго па 18 гадоў, яшчэ рана! Што вы ведаеце аб жыцці?

— Не, — запярэчылі маладыя, — мы кахаем адно аднаго і хочам быць разам.

Згулялі вяселле. Маладыя жылі ў нанятай кватэры. Нарадзілася дачушка, Крыся. Маладыя не ведалі, як яе няньчыць, так цешыліся. Сямейнае шчасце працягвалася яшчэ два гады.

Аднойчы ў гарадскім аўтобусе Вацэк пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай. Правёў яе дадому. Пачаў з ёю сустракацца. Дома пачалі часта ўзнікаць сваркі.

Моніка аднойчы заўважыла свайго мужа ў абдымках дзяўчыны і падыйшла да іх.

— Калі так робіш, — спакойна сказала жонка, — то не прыходзь больш дадому.

Вацэк увечары забраў сваю вопратку і перанёс у новую, толькі што нанятую, кватэру.

Моніка цэлую ноч праплакала, на другі дзень пайшла з Крысяй у парк. Там пазнаёмілася з прыгожым хлопцам. Марэк жаліўся, што кінула яго дзяўчына. Моніка расказала, як абыйшоўся з ёю муж.

Пачалі сябраваць. Марэк прызнаўся ў каханні. Моніка любіла яго.

## КУБАК КРЫНІЧНАЙ ВАДЫ

**Адно толькі памятаецца — гул гарачага, наперамену з пранізліва-халоднымі палосамі, паветра, якое б'е ў загарэлы, густа пакрыты маленькімі кропелькамі салёнага поту, гарачы твар, тузае запыленыя валасы...**

Пылістыя малдаўскія вясковыя дарогі. Шэрыя сцены хатаў, нізкія стрэхі, цень навіслы вінаградных лозаў. Гарачыня.

Гарачыя плечы Яана, абцягнутыя сінім спартыўным касцюмам. Востры профіль — лагодны і люты; блакіт вачэй, нявіннасць пасмаў валасоў, якія адкідае з ілба, як жарэбчык... Халодныя трубы помпавай станцыі, мокрая трава малдаўскай ночы, чырвоная зямля, выраслыя, сакавітыя, пераможныя галіны шалею-дурнап'яну і яго ўдушлівы, злосны пах. Гліністы яр, крыштальна-халодная крыніца. Кубачак на развілістым калочку, для прахожага. Белае неба, белае сонца. Сад на высокай гары, парослай рагулькамі. Сухое, гарачае паветра ўбягае ў лёгкія, рвецца, вострае, як пясок, з перасохлых вуснаў. Бяжым.

Халодны вечар. Смак кавуноў, якія прынеслі хлапчукі з вёскі.

Мы зніклі тады з вачэй адно другому. На некалькі дзён. Потым — ліст. Страх, што можа больш не ўбачымся! Яго занёс малы паўкіргіз, хлопчык на веласіпедзе... як стары, аб перабудове, аб дырэктары саўгаса, які за пакражу сеткі перцу „штрафуе" сарака рублямі, падлюга!..

Шорсткія лаўкі лагера. Размовы да дрыжачага золку...

...Тая дзяўчына, што згінула пад коламі аўтобуса на „Югазападняй" у Маскве, буратка. Страшна яе кахаў. Вера...

Насіла Яана па ўсёй краіне Саветаў. Будаваў БАМ. Жыў у інтэрнатах, гасцініцах, бараках. Вера захацела яго, ветрагона, бяздомнага (дзе ж тая хатка маленькая, драўляная, у вёсцы запыленай над Днястром...). Вера ведала аб тым, што ў яго ёсць сын. Было ім разам добра, але лёс такі... Ромачку цяпер чатыры гады. Яго маці? Не піша яна да Яана. Яна яго не хоча, яна — настаўніца ў Сібіры. Навошта ёй просты чалавек? Яан быў добрым бацькам для дзіцяці. Не мужам. Разам з Лідай БАМ будавалі. Новы год у бараках, ёлачка, танцы. Ліда выйграла ў віктарыне бутэльку шампанскага — яе сябрукі ўжо паслі лапкі на пітво, але настаўніца захацела выпіць з гэтым чароўным ударнікам з аркестра, у валёнках (ногі тады адмарозіў). І былі разам у тую ноч. Хацеў жаніцца, але Ліда паказала дзверы. І на пісьмы не хоча адказваць, і аліментаў не хоча. Мае цяпер прыгожую кватэру ў Новасібірску, ільготы для адзінокіх маці. „Сумую па Ромку — ён жа мой сын..."

Вера — яна была добрая... А пасля была Ірына. Абяцала пісаць, але не напісала. У мінулым годзе была в'етнамка, называў яе Юлькай. Кахаў яе, але яна таксама выехала. Чорныя валасы, волас, як у птушачкі.

Цікава, ці і мы будзем адзін аднаму пісаць; цікава, хто з нас першы напіша...

Цяпер у Яана ёсць жанчына, у Кішынёве жыве. Замужняя — муж у яе нядобры, не разумее яе. Яан дае ёй шчасце — так сама гаворыць. Трохі пяшчотнасці, разумення — гэтага жанчына патрабуе... І зноў Яан махнуў бестурботна галавой. Бялявая чупрына, пахучая травамі, адкрывае светлы блакіт вачэй.

Маці яго ненавідзела. Зараз пасля родаў перанесла шок. Хацела сыночка ўтапіць у калодзежы. Суседка згледзела, дзіцяня з рук вырвала. Маці да смерці была ў дурдоме, часам толькі пускалі яе на некалькі дзён дахаты.

Бацька цяпер у шпіталі, занядужаў на сэрца. Хата пустуе. Зрэшты, што за гаспадарка, калі ўсе ў саўгасе? Кавалак садочка, вінаграду крыху. Навіслыя над панадворкам старыя, здзеравянелыя галіны вінаградніка, пуста...

Халоднае піва ў краме на пыльных ростанях. Сонца выпальвае травінкі, якім удалося прабіцца паміж каменнямі... Час затрымаўся ў гэты поўдзень.

Мы ад'язджаем. Здымкі, адрасы. Хто з нас напіша першы?..

Лістаў не было.

Можа гэта і лепш? Застанецца ў памяці толькі гэты вецер, неспакой пылістых дарог, запах белюня-дурнап'яну, згублены волас на галіне цяжарнай яблыні...

Колькі разоў мы дакранаемся да чужога жыцця, часам аб гэтым і не ведаючы?

**Міра Лукша**

— Вазьмі развод з мужам і ідзі за мяне! — папрасіў Марэк. Вацэк згадзіўся даць развод.

Моніка выйшла замуж за Марка, Вацэк ажаніўся з дзяўчынай з гарадскога аўтобуса.

Бацькі Вацка часта прыходзілі да Монікі, каб пабачыць унучку.

Час ішоў хутка. У Монікі нарадзіўся сын, жонка Вацка дала яму дзяўчынку.

Калі малому Мірку было два гады, Марэк рашыў паехаць на Захад, каб зарабіць. Спачатку прысылаў долары. Пісаў, што купіў ужо машыну і прыедзе. Пасля напісаў, што пакахаў іншую і ўжо не прыедзе. Моніка плакала, чаму яе лёс такі дрэнны.

Жонка Вацка таксама выбралася на Захад. І, праз некалькі месяцаў напісала, што не вернецца дахаты. Засумаваў Вацэк, а пасля падумаў: „А чаму мне не паехаць да Монікі? Яна цяпер у такіх жа абставінах, як і я".

Вечарам узяў маленькую Натальку і пайшоў да былой жонкі. Моніка сустрэла яго ветліва. Пасядзелі, пагутарылі. Дзеці згодна гулялі.

— Цяпер мы абое адзінокімі засталіся. Можа яшчэ раз спрабуем быць разам? — Вацэк нясмела паглядзеў у вочы Монікі.

— Можам паспрабаваць, — згадзілася яна.

Аб сваіх намерах сказалі бацькам. На вяселлі ўсе гулялі амаль тыдзень. Маладыя далі сабе слова, што ўжо ніколі больш не расстануцца.

**Аўрора**

# СЛУЦКАЯ КНЯЗЁЎНА НЕ БЫЛА КАТАЛІЧКАЙ

У сшытку № 125 „Polskiego Słownika Biograficznego" змешчана біяграфія Януша Радзівіла (1579—1620), напісаная Тадэвушам Васілеўскім. Мяне здзівіла адна інфармацыя. Менавіта, быццам Я. Радзівіл выдаў пісьмовае абяцанне, што дазволіць будучай жонцы, г.зн. Соф'і Алелькавічанцы, застацца каталічкай. Інфармацыя гэта падфальшаваная. Той, каму давялося прачытаць біяграфію благаслаўлёнай Соф'і, напісаную слуцкім архімандрытам Афанасіем (глядзі: „Гродненския епархияльные ведомости", № 9 ад 26 лютага 1912 г., стар. 87—91), добра ведае, што слуцкая князёўна ніколі не была каталічкай. Яе ахрысцілі ў праваслаўнай веры, у якой і заставалася да канца сваіх зямных дзён. Пры гэтым трэба сказаць, што наогул яна была вельмі руплівай паслядоўніцай праваслаўя. Для сваёй Царквы шмат чаго добрага ўчыніла. Абараніла перад уніяй і каталіцызмам праваслаўныя храмы ў Слуцкім княстве і іншых яе маёмасцях. Клапацілася пра бытавое забеспячэнне манастыроў, цэркваў і прыходаў. Ахвяроўвала вялікія сродкі на збудаванне новых святыняў. Князь Януш успамагаў яе ў гэтай дзейнасці. Таксама пасля смерці жонкі спрыяў праваслаўным.

Уступаючы ў сужонства з князем Янушам, Соф'я засцерагласа, што іх дзеці, нягледзячы на пол, будуць выхаваны ў праваслаўнай веры. Муж згадзіўся на гэтую ўмову. Шлюб заварыўся паводле праваслаўнага абраду ў саборы ў Брэст-Літоўску. Дадзенае князем Янушам абяцанне выклікала абмен лістамі паміж патрыярхам Канстанцінопаля і папам рымскім, які да нічога не давёў. Аднак у выніку націску з боку Рыма, Януш Радзівіл перайшоў з каталіцызма ў кальвінізм (з біяграфіі, апрацаванай Т. Васілеўскім, вынікае, што кальвінізм ён прыняў намнога раней).

Яшчэ я хацеў бы паясніць справу патомства кн. Януша Радзівіла, народжанага з слуцкай князёўнай. Соф'я нарадзіла мёртвую дачку і, на жаль, сама таксама памерла пры родах. Здарылася гэта не 9 а 19 сакавіка 1612 г. Апошняя з Алелькавічаў пражыла няпоўных 27 гадоў.

**Пётр Байко**

# СТАСЬ ды ЗОСЯ

Стась і Зося пасябравалі яшчэ ў школе. Потым пакахалі адно другога і пажаніліся.

Стась пакінуў горад і працу на прадпрыемстве і пераехаў да Зосі на вёску. Супольна купілі невялікую гаспадарку. Стась гаварыў усім: „Пакажу, як трэба гаспадарыць!"

Пачаў ад гадоўлі забойнага быдла. Купіў трохі цялятак. Зімой яны захварэлі і пачалі дохнуць. Стась чакаў вясны — нямат было кармоў. Вядома, маладая жывёла патрабуе корму далікатнага, смачнейшага. Кепскае, прагнітае сена не давала добрага выніку. Добрага сена быць у Стася не магло — разлічваў, што хопіць траву толькі выкасіць, а яна высахне сама ў пакосах.

Стась усё-такі не траціў аптымізму. Верыў, што прыгрэе веснавое сонейка, растане снег і цялятcі выбягуць на луг, на зялёную сакавітую траўку і толькі любуйся, глядзі, як будуць набіраць цела і кілаграмаў, можа нават, экспартнага мяса...

Стась марыў, што за гэта лета выплаціць свае даўгі ў сельскагаспадарчым банку і застанецца яму яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч.

Пабраў цялят на ланцугі і пагнаў на ледзь адрослую траву. Травы не хапіла нават да паловы лета. Цяляты зрываліся з ланцугоў і ўлазілі ў шкоду да чужых гаспадароў. Стась надзеў свайму быдлу путы. „Як тут іх дагледзець і прадаць? Яны ж маленькія і худзенькія такія, — думаў Стась, гледзячы на свой дабытак. — Не аплочваецца гадоўля жывёлы... Вось маліны — гэта інтарэс! Сваяк мае плантацыю, у яго растуць маліны вялікія, як вінаград!"

Заняўся Стась малінамі. Узяў чарговы крэдыт. Упусціў ён сваю Зосю і пяцёра дзетак у маліны, а сам пайшоў у свет.

Прыказка кажа: „Мужык спіць — яго доля бяжыць".

**В. Семянюк**

# КОНКУРС СЦЭНІЧНАГА СЛОВА

23 снежня 1989 г. у клубе ГП БГКТ у Беластоку прайшоў фінальны этап дэкламатарскага конкурсу для вучняў сярэдніх школ, для студэнтаў і для тых, што ўжо нічога не вывучаюць (коратка кажучы, для дарослых). Правілы конкурсу, у параўнанні з папярэднімі, крыху змяніліся. Апрача дэкламацыі двух літаратурных твораў (вершам і прозай) дапускаліся сцэнічныя пастаноўкі літаратурнага твора групай да 5 чалавек. Таму і назва конкурсу змянілася: не „дэкламацыя", а „сцэнічнае слова".

Калі гаворка ідзе пра дэкламацыі або тэатр у нас, можам быць упэўненыя, што ў гэта такім ці іншым чынам умяшаны Янка Мордань. Бо гэта ён апошнім часам захапіў у БГКТ манаполію на арганізаванне такога роду конкурсаў. І дзякуй Богу. Чалавек ён тут высока кампетэнтны, мае ўжо адпрацаваныя арганізатарскія прыёмы, дзякуючы якім такія мерапрыемствы праходзяць спраўна і паспяхова. Які плён могуць прынесці ў будучыні такія конкурсы? Падазраю, што з цягам часу з маладых ліцэістаў можа выкрышталізавацца група асоб, для якіх сцэнічнае слова станецца жыццёвай пасіяй: можам займець у нашым асяроддзі зародак сапраўднага беларускага тэатра, стварэнне якога знаходзіцца ўсё яшчэ ў сферы нашых мараў. Найважнейшае тут — людзі, якія будуць выдатна валодаць беларускай мовай і займеюць смак у мастацкім выкананні тэкстаў. Астатняе — не за гарамі. Знойдуцца адпаведныя людзі, тады і знойдуцца спосабы вырашэння так складанага пытання, як стварэнне беларускай сцэны ў нашых абставінах. Бо калі не мы тут і цяпер — то хто?

Студэнты падвялі (не першы раз ужо). Або яны не чытаюць беларускай літаратуры, або ўвогуле не цікавяцца тэатрам, або яшчэ нешта іншае, ліха іх ведае. Ва ўсякім выпадку, нікога са студэнтаў у конкурсе не было. З „дарослых" у конкурсе выступіла (і то няблага) Ірына Лукша (яна ж і вядомая ўсім сваімі замалёўкамі з жыцця ў „Ніве" Аўрора). Астатнія 13 удзельнікаў конкурсу — ліцэісты з Бельска і Гайнаўкі.

У параўнанні з папярэднім конкурсам дэкламацыі, які праводзіўся летась у красавіку, заўважальнае было пашырэнне рэпертуару прадстаўленых тэкстаў: назіраецца ўсё смялейшы адыход ад канону тэкстаў са школьнай праграмы навучання беларускай літаратуры ў ліцэях, перавага аддаецца ўласным пошукам цікавых тэкстаў сучасных беларускіх аўтараў. І гэта добра. Уплыў Янкі Морданя на сваіх маладушых сяброў тут відавочны. З валоданнем моваю бывае па-рознаму: агульна кажучы, сітуацыя папраўлялася, але ўсё яшчэ яна далёкая ад задавальняльнай. Аднак наракаць тут не буду. Усё ідзе добрай дарогай.

Камісія, якая ацэньвала выступленні (Віктар Стахвюк, Сакрат Яновіч і ніжэй падпісаны) аднагалосна прызнала першую ўзнагароду (70 тысяч злотых) Міраславу Здрайкоўскаму за выкананне фрагментаў паэмы У. Караткевіча „Зямля дзядоў" і рамана Л. Дайнекі „След ваўкалака". Мірак, ад прыроды на-



Выступае Міраслаў Здрайкоўскі.

дзелены выдатным голасам, пакарыстаўся ім у сваёй дэкламацыі знакаміта. Другую ўзнагароду атрымала Альжбета Бура, трэцюю — сёстры Вася і Дарота Гіншт, якія выступілі разам. За цікавыя інтэрпрэтацыі камісія вылучыла чатыры асобы: Анну Мінкевіч, Ірыну Лукшу, Галіну Семянюк і Вераніку Вяглюк.

Другая частка конкурсу, так званы „Тэатр малых форм", складалася з дзвюх сцэнічных апрацовак: „Святой ночы" Міхася Шаховіча і „Слова пра паход Ігаравы".

„Святую ноч" прадставілі Альжбета Томчук, Давід Харкевіч і Валерыян Янчук. Цікавая пастаноўка, добра аддае настрой паэмы Шаховіча. І добрае выступленне Элі.

Цяжар інтэрпрэтацыі старарускага эпаса ўзвалілі сабе на плечы Дарыюш Фіёнік (ён жа і Мікола Сахарэвіч, вядомы чытачам „Нівы"). Знакамітае валоданне моваю, добрае адчуванне сцэны і тэксту ў Дарыюша — усё гэта склалася на захапляльную пастаноўку. У сцэне „Плачу Яраслаўны" выдатную дапамогу аказала Дарыюшу Аліна Маліш.

Камісія вырашыла што? Паколькі польскай валюты ўжо не мела, то ўдзельнікам сцэнічных пастановак дала ўзнагароды ў амерыканскай валюце, якую ўдалося зберагчы, ашчадна распараджаючыся арганізатарскім фондам конкурсу „Беларусаведа" ад Канадскага таварыства „Беларусь". Маем адно надзею, што нашы канадскія сурадзічы не палічаць нам гэтага за правіннасць, а зразумеюць матывы, якімі кіравалася камісія. Дарыюш Фіёнік атрымаў 20 амерыканскіх долараў, астатнія ўдзельнікі пастановак — па пяць.

**Ян Максімюк**
Фота аўтара

# ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

(Працяг са стар. 1)

школе, аднак, пад націскам хатніх і знаёмых, ён запісваецца ў хімічна-тэхнічную школу ў Вільні. Але і хімія не змагла на столькі захапіць Францішка, каб ён адкінуў думку аб тэатры. У тэхнічна-хімічнай школе ён пратрымаўся толькі адзін год і таксама пакінуў яе без атэстату. Калі і з хіміяй было скончана, хлапец ужо рашуча зажадаў паступіць у драматычную школу. У Вільні драматычнай школы не было. Трэба было ехаць у Варшаву або ў Кракаў. У Кракаве былі нейкія знаёмыя хлопцы з Вільні, дык Францішак надумаў ехаць туды.

І вось, увосень 1903 года пачынае Францішак Аляхновіч эпапею сваіх натхнёных і поўных рызыкі вандровак. Было яму тады 20 гадоў. Без замежнага пашпарта, маючы ў кішэні ўсяго толькі 15 рублёў, накіроўваецца ён у Кракаў.

У Кракаве ў 1903 годзе драматычная школа не працавала. Не маючы адпаведнага навучальнага цэнзу, Францішак Аляхновіч паступіў аднак вольным слухачом у Кракаўскі універсітэт. Але правучыўся ён тут толькі адзін год і ў 1904 годзе пераверся ў Варшаўскую драматычную школу пры музычным таварыстве, якую і скончыў у 1907 годзе. У 1907-1908 гады ён ездзіў з польскім тэатрам па розных мястэчках. У 1908 годзе ён прыехаў у Вільню, ажаніўся і пачаў працаваць рэпарцёрам у розных віленскіх газетах, а затым выдаў на польскай мове свой ілюстраваны гумарыстычны часопіс-тыднёвік „Пэркунас".

Тут у Вільні пасябраваў Францішак Аляхновіч з беларускімі дзеячамі „Нашае нівы" і ў 1910 годзе актыўна ўвайшоў у беларускі рух, заняўшыся, разам з Аляксандрам Бурбісам і Алаізай Пашкевіч-Цёткай, арганізацыяй Беларускага тэатра. Аднак, на вялікі жаль, доўга працаваць у Беларускім тэатры Аляхновічу не давялося, бо за адзін артыкул у „Пэркунасе" рускія ўлады зачынілі часопіс, а рэдактара абвінавацілі ў „зневажанні сіл нябесных" і ў „імкненні скінуць існуючую ўладу". Атрымаўшы позву з'явіцца ў суд, Францішак Аляхновіч сеў у першы цягнік і зноў без замежнага пашпарта накіраваўся ў знаёмы яму Кракаў.



Тры гады, ад 1910 па 1913-ты, пратуляўся Францішак Аляхновіч па Галіччыне, граючы пад псеўданімам Монвід у розных польскіх тэатрах. Адзінокага і стомленага вандроўным жыццём 30-гадовага Аляхновіча моцна пацягнула на бацькаўшчыну ў Вільню, дзе жыла ягоная маці (бацька памёр яшчэ ў 1904 годзе).

У 1913 годзе, разлічваючы на абвешчаную ў Расіі амністыю з прычыны трохсотгоддзя панавання Раманавых, ён вяртаецца ў Вільню і з'яўляецца ў пракурора. Аднак пазбегчы турэмнае кары яму не ўдалося. Пад закон аб амністыі падыйшоў толькі пункт абвінавачання ў „імкненні скінуць існуючую ўладу", а за другі пункт абвінавачання, г.зн. за „зневажэнне нябесных сіл" ён атрымаў год астрогу. Год турмы „на Лукішках" быў дужа плённым і для самога Францішка Аляхновіча і для развіцця беларускай драматургіі. Тут, маючы шмат часу, ён напісаў сваю першую п'есу „На Антокалі" і запланаваў яшчэ шэраг іншых беларускіх п'ес.

Выйшаўшы ў 1915 годзе з „Лукішак", Францішак Аляхновіч апынуўся ў вельмі цяжкіх матэрыяльных абставінах. Ён малюе шыльды, служыць у міліцыі, працуе кантралёрам электрычных лічнікаў ды адначасова ладзіць беларускія спектаклі, робіць карэкту ў віленскай беларускай газеце „Гоман" і піша новыя п'есы, як „На вёсцы" (1916 г.), „Бутрым Няміра" (1916 г.), „Манька" (1917 г.) і „Базылішак" (1917 г.). Непамернае напружанне і грашовая нястача змушаюць яго кінуць галоднае віленскае жыццё і выехаць настаўнікам у Чорны Бор пад Вільняй у дзіцячы беларускі прытулак. Тут улетку 1917 года ён піша двухактавую п'есу „Каліcь" і дзіцячую аднактоўку „У лясным гушчары", якая першы раз была пастаўлена ў Чорным Бары на фоне жывой лясной дэкарацыі.

Працяг будзе

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

— 14 —

## 2.5.2 Беларускае зменавехаўства

Ідэі зменавехаўства ўзніклі ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі пад уплывам рускага зменавехаўства. У 1921—1922 г.г., калі беларускае зменавехаўства толькі зараджалася, ягоны рускі адпаведнік ужо быў масавым рухам з салідным ідэалагічным багажом. Пачатак яго быў пакладзены выхадам у ліпені 1921 г. у Празе зборніка „Смена вех". Аўтары гэтага зборніка Ю. В. Ключнікаў, Н. В. Устралаў, А. В. Бабрышчаў-Пушкін і іншыя абгрунтоўвалі тэорыю буржуазнага перараджэння савецкай улады. Новая эканамічная палітыка (нэп) успрымалася імі ў якасці доказу імкнення бальшавікоў „рэстаўраваць капіталістычныя парадкі на больш высокім культурным узроўні". Далейшае палітычнае развіццё Расіі яны разглядалі як паступовую эвалюцыю ў бок буржуазна-дэмакратычнай дзяржавы заходняга тыпу. Асаблівую цікавасць выклікалі канцэпцыі адноснай карыснасці Кастрычніцкай рэвалюцыі для Расіі, якая, быццам бы, адна змагла абараніць некаторыя ідэалы лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ад смяротнай пагрозы з боку манархістаў і іншых рэакцыянераў. Адным з актыўных прапагандыстаў ідэй зменавехаўства стала газета „Накануне". Выходзіла яна ў Берліне пад рэдакцыяй прафесара Ю. В. Ключнікава. На яе старонках лідэры зменавехаўства заклікалі эмігрантаў вяртацца ў Савецкую Расію дзеля таго, каб прыняць удзел у аднаўленні краіны. У газеце і яе літаратурным дадатку друкаваліся не толькі эмігранты, але і савецкія вядомыя пісьменнікі: М. Горкі, К. Федзін, К. Чукоўскі, В. Катаеў, М. Булгакаў, С. Ясенін і інш.

Адным з галоўных ідэолагаў беларускага зменавехаўства стаў Алесь Цвікевіч. Жывучы ў Берліне, галоўным цэнтры рускіх зменавехаўцаў, ён, безумоўна, знаходзіўся пад іх уплывам. Ужо ў канцы 1921 г. ён пачаў высоўваць тэорыю „паступовай дэмакратызацыі савецкай улады". У студзені 1922 г. ён пісаў: „Пытанне аб Беларусі можа быць узнята альбо пад знакам стварэння буфернай дэмакратычнай дзяржавы, альбо пад знакам дэмакратызацыі існуючай сёння Савецкай Беларусі... Дэмакратызацыя існуючай Савецкай Беларусі справа больш важная і больш лёгкая. Калі Антанта не здолее дэмакратызаваць усю Савецкую Расію, дык вельмі магчыма зрабіць гэта па частках".

Зменавехаўства А. Цвікевіча часткова выводзілася з аб'ектыўнага ўліку тых выразных змен, якія адбыліся ў галіне ідэалагічнай палітыкі БССР. Тыя беларускія адраджэнцы, якія ў час рэвалюцыі сталі на бок савецкай улады, намагаліся ажыццявіць перагляд адносін партыі да ўсяго незалежніцкага руху і да асобных яго прадстаўнікоў. Алесь Бурбіс, напрыклад, надрукаваў у „Весьніку Народнага камісарыяту асветы" артыкул „Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху". Галоўная ідэя гэтага артыкула палягала на адмаўленні антысавецкага характару беларускага незалежніцкага руху. А. Бурбіс сцвярджаў, што вельмі складаныя абставіны грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі не дазволілі лідэрам левага крыла гэтага руху правільна зразумець хто іх вораг, а хто іх сябра. Сляпы лёс, як сцвярджаў аўтар, падзяліў іх, хаця ў сапраўднасці асноўныя мэты беларускіх адраджэнцаў і камуністычнай партыі амаль што ідэнтычныя.

У тым жа духу выступаў на старонках часопіса „Полымя" З. Жылуновіч з артыкулам „Два бакі беларускага руху". Ён амаль адкрыта бараніў тэорыю „бяскласавасці беларускай нацыі", „Нашу ніву" называў самай радыкальнай газетай не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Расіі, пазітыўна ацэньваў снежаньскі 1917 года Першы ўсебеларускі кангрэс. „У спадчыну Савецкай Беларусі, — пісаў ён, — беларускі нацыянальны рух уліўся двума жараламі: рэвалюцыйна-пралетарскім і буржуазна-незалежніцкім". Паказальна, што ў другую плынь ён залічвае толькі такія адыёзныя ў савецкім разуменні фігуры, як Р. Скірмунт, графіня Радзівіл і генерал Кандратовіч. Такім чынам, ён пакідаў магчымасць для ўсіх вядучых дзеячоў апазіцыі замежжа даказаць сваю прыналежнасць да першай плыні і спрычыніцца да будаўніцтва беларускага нацыянальнага дому на базе БССР. Падобныя погляды былі характэрныя і для публікацый У. Ігнатоўскага.

Зразумела, што гэтыя ідэі, хаця маглі і не быць адлюстраваннем афіцыйнага пункту гледжання савецкіх улад на Беларусі, але пасрэдна сведчылі аб імкненні беларускіх камуністычных лідэраў разбіць сілы замежнай апазіцыі, выдзеліць з яе асяроддзя тых, каго можна было выкарыстаць у працэсе ўмацнення Беларускай ССР.

На працэс фармавання ідэалогіі беларускага зменавехаўства значны ўплыў зрабілі дзве наступныя падзеі: узбуйненне БССР і надзвычайны з'езд партыі беларускіх эсэраў у Мінску (чэрвень 1924 г.). Першая падзея выбіла казырную карту з рук тых прадстаўнікоў апазіцыі на Захадзе, якія ўпарта трымаліся пункту гледжання фікцыйнасці беларускай дзяржаўнасці ў рамках пазбаўленай значнай часткі сваёй тэрыторыі БССР. Другая ж развеяла ілюзіі аб наяўнасці ў Савецкай Беларусі шматлікай паўлегальнай эсэраўскай апазіцыі, здольнай аказваць уплыў на характар нацыянальнай палітыкі ў рэспубліцы. Вельмі важным быў і той факт, што рэзалюцыя надзвычайнага эсэраўскага з'езда ў Мінску не толькі канстатавала самаліквідацыю партыі, але і заклікала ўсіх сяброў партыі, „хто знаходзіцца ў эміграцыі, кінуць захад і вярнуцца на працу ў сваю рабоча-сялянскую краіну, стаць у шэрагі адзінага пралетарскага фронту, каб не апынуцца ў шэрагах фашызму".

Галоўным ідэолагам беларускага зменавехаўства, бясспрэчна, зарэкамендаваў сябе А. Цвікевіч, які з 20

„Ніва"
28.I.1996 г.

# ШЛЯХ ДА СОНЦА — ПРАЗ СЭРЦА

(Працяг са стар. 1)

з зоркамі, каменна-ўпэўненыя позіркі вояў і г.д.

Зусім не. Роспіс Сяржука Крыштаповіча напоўнены вобразамі беларускай гісторыі, старажытнай славянскай міфалогіі, нейкімі фантастычнымі істотамі.

Цэлы пантэон паганскіх багоў — Велес, Ярыла, Пярун, Макаш, не проста сабраныя тут якімсьці сімвалам ідалапаклонніцтва нашых продкаў. Ён дапамагае раскрыць першародныя рысы характару нашага народа: працавітасць, любоў да зямлі, да жанчыны-маці, яго еднасць з прыродай.

Роспіс разгортваецца перад гледачом своеасаблівым сімвалам спрадвечнага шляху чалавека ў традыцыйным уяўленні беларусаў, дый усіх славян: нараджэнне, спадзяванне, барацьба са злом, перамога і вера ў будучыню.

Зразумела, няпроста было ўвасобіць мастаку сваю задуму. Многіх палохала смеласць творчага падыходу, многія жадалі традыцыйных банальных рашэнняў. Неаднойчы даводзілася выслухоўваць ацэнкі выканкомаўскіх шышак: „Мы вашу мазню валікамі закатаем".

Але сапраўдных мецэнатаў аказалася больш. І вось гэтая „мазня" прынесла „золата" беларускаму манументальнаму мастацтву на ўсесаюзным узроўні. А потым прыйшло і міжнароднае прызнанне.

Па запрашэнні міратворнай арганізацыі „Ратарн-клуб" на пачатку 1989 года Сяржук Крыштаповіч пабываў у Вялікабрытаніі. Там адбылося шмат цікавых сустрэч. А адна з самых запамінальных, бадай, — наведванне Скарынінскай бібліятэкі ў Лондане, якой мастак падарыў каляровую фотарэпрадукцыю свайго роспісу — як кавалак тае зямлі, з якое выйшаў, Беларусі.

Крэда Сяржука Крыштаповіча — сучасная іканаграфія. Гэта высвятлілася, як і шлях мастака да свайго Эверэсту, на яго персанальнай выстаўцы, што экспанавалася нядаўна ў мінскім кінатэатры „Масква". Цэлы раздзел там і быў прысвечаны роспісу. Ён складаўся з накідаў, малюнкаў і іншых работ, дзе выяўляўся пошук вобразаў, настрою будучай працы.

Нямала было і самастойных карцін, якія таксама падкрэслівалі творчае крэда мастака. Вось хоць бы „Воблака цывілізацыі". Зноў прысутнічае вобраз жанчыны-маці, над якой ужо навісаюць не толькі зямныя беды, але і касмічныя.

Вобраз маці, дзіцяці, як сімвалы жыцця, характэрны практычна для ўсіх работ Сяржука Крыштаповіча. Але чысціню, характэрную традыцыйнай іканаграфіі, усё шчыльней ахоплівае змрок цывілізацыі (работы „Касмічнае выпраменьванне", „Крык цывілізацыі", „Спрадвечны боль").

Гэта зусім не песімізм мастака. Гэта заклік: ужо сёння трэба шукаць выйсця, каб цывілізацыя не з'ела цывілізацыю. А для гэтага трэба сур'ёзна задумацца, чаму ў спрадвечным імкненні чалавецтва да Міру, Сонца, Шчасця сярод дня раптам наступае ноч...

Невыпадкова, бадай, выстаўка мела назву „Крок да сонца".

Але не толькі страхам цемры кліча мастак да Сонца. Вельмі



Сяржук Крыштаповіч на фоне свайго роспісу „Шлях маці".

цікавы ў гэтым сэнсе праект роспісу плафона Мінскага галоўпаштамта. Увесь ён зязе бела-чырванню аптымізму, радасці і перамогі. Гэта смела (звычайна тут прапаноўваюцца пастэльныя таны). Але роспіс Крыштаповіча не прыгнятае, пастэльнасць выяўляецца не ў знешняй атрыбутыцы, а ў характары твора, у змесце ж — зліццё часоў: гісторыя, сучаснасць, будучыня.

У час сустрэчы з мастаком я не мог не пацікавіцца, калі ж так будзе выглядаць паштамт у сталіцы Беларусі. Адказ быў сумны:

— Тут не патрабуюць мастацтва. Можа лічаць, што танней і карысней будзе таксама „валікамі закатаць". Мне ўжо здаецца, што прасцей будзе дамовіцца на роспіс, скажам, беларускага цэнтра „Полацак" у далёкім Кліўлендзе, чым адшукаць мецэнатаў пад бокам. Мастаку ў нас прасцей зарабіць вялікія грошы на чужыне, чым проста падарыць сваё мастацтва свайму ж народу.

Шкада, але гэта так. І будзе так, пакуль нашыя газеты будуць лямантаваць: „Ні ад мітынгаў, ні ад моўнага рэнесансу, ні ад мастацтва не стане ў магазінах болей каўбас".

А між тым, калі ўжо так укаранілі ў нашыя галовы думку пра каўбасы за 70 гадоў будаўніцтва новага жыцця, дык завітайце калі-небудзь у школу імя Чэпіка на Беларусі і пабачце, якімі растуць дзеці побач з мастацтвам. Яны змогуць і хлеб вырасціць, і хату пабудаваць, захоўваючы ў сваім сэрцы павагу не толькі да сваёй працы, але і да ўсяго, што створана рукамі і, галоўнае, душой чалавека.

**Вітаўт Мартыненка**

Фота У. Мяжэвіча

## ЗДАРОВЫ СОН

**Кожны з нас ведае, што спаць найлепш пры адкрытым акне. Тады цэлую ноч дыхаем свежым паветрам.**

**Ведалі аб гэтым Антось і Хрысціна. Аднойчы вечарам, як заўсёды перад сном, адкрылі фортачку.**

**Ёсць і іншыя людзі, якія любяць падыхаць ноччу свежым паветрам. Яны заўважылі адкрытую фортачку. Адчынілі акно і ўлезлі ў спальню. Заўважылі спячых. Дакрануліся да галавы жанчыны. Хрысця думала, што гэта муж. Адсунула назойлівую руку, нацягнула на галаву коўдру і заснула.**

**Зладзеі толькі гэтага і чакалі. Вынеслі каляровы тэлевізар, дыван і грамафон. Выходзячы, моцна трэснулі дзвярыма. Толькі тады Хрысця прачнулася.**

**— Уставай, Антось! — штурханула мужа пад бок. — Хтосьці да нас ламоча!**

**Праз акно ўбачылі, як ад'язджае „ныса" без рэгістрацыйных нумароў.**

**— Усё прапала, — злосна махнуў рукой Антось. — Іх цяпер не знойдзеш нават са свечкай.**

**Хрысця зачыніла фортачку.**

**Аўрора**

**красавіка 1923 г. па 15 лістапада 1925 г. займаў пасаду Старшыні Рады народных міністраў БНР. З факту свайго пераезду ў Мінск ён меў намер зрабіць падзею значнага палітычнага гучання. На пачатку 1925 г. адбылося некалькі сустрэч А. Цвікевіча з савецкім паслом у Літве Александроўскім. Узгадняліся ўмовы пераезду. А. Цвікевіч настайваў на пераезд, разам з шэрагам сваіх радаўскіх міністраў, на ўмовах захавання ўсіх іх эміграцыйных тытулаў і без публічнай адмовы ад палітычных перакананняў. На думку А. Цвікевіча, падобная гучная акцыя павінна перад усім светам прадэманстраваць нараджэнне раўнапраўнага саюзу паміж беларускім рухам за межамі БССР і камуністычнымі ўладамі БССР.**

**Ён падкрэсліваў антыпольскую накіраванасць гэтага саюзу. А. Цвікевіч хацеў паехаць у БССР у якасці прадстаўніка ўсіх палітычных плыняў беларускага нацыянальнага руху. З гэтай мэтай ён у пачатку 1925 г. звярнуўся ў Краёвы Цэнтр (створаная ў пачатку 1923 г. у Вільні арганізацыя для кіраўніцтва ўсімі плынямі беларускага нацыянальнага руху) са спецыяльным мемарандумам. „Наш пераезд, — пісаў ён, — паразуменне паміж усходнім і заходнім беларускім фронтам. Вы павінны даць палітычнае забеспячэнне нашай акцыі. Я еду як Старшыня ўраду БНР, захоўваючы ўсе свае сувязі на Захадзе, каб атрымаць той выйгрыш у нацыянальнай справе, які толькі можна атрымаць ад Масквы. Бо кожны з нас ведае, што запраўды Менск сёння яшчэ далёк ад таго, каб быць беларускім... Я заяўляю, што тыя аргументы, што я спавядаю, не робяць з мяне ворага Савецкай улады на Беларусі, але я не скрываю, што ня ўсім, што ёсць у Менску, я задаволены... У кожным разе я паеду ў Менск як палітычны дзеяч толькі пасля таго, як Вы апрабуеце маё падарожжа і паведаміце мяне аб сваіх поглядах і сваіх захадах".**

**Калі сярод рускай эміграцыі ідэі зменавехаўства ахапілі сваімі ўплывамі нязначную яе частку, дык у беларускім нацыянальным руху за межамі БССР гэта ідэалогія заваявала абсалютную яго большасць. Магчыма, што вытлумачыць гэты феномен можна тым фактам, што сярод рускіх эмігрантаў прадстаўнікі былых маёмасных класаў пераважалі, а ў беларускім руху яны практычна адсутнічалі.**

**Сярод праціўнікаў зменавехаўства аказаліся некаторыя кіраўнікі БПСР, а таксама, праўда, толькі спачатку, сакрэтны лідэр беларускай палітычнай эміграцыі ў Літве В. Ластоўскі. У Празе група эсэраўскіх ідэолагаў (Т. Грыб, Я. Мамонька, П. Бадунова і інш.) намагалася арганізаваць чынны пратэст супраць распаўсюджвання ідэалаў зменавехаўства наступным чынам. У канцы 1924 г. яны ад імя ЦК партыі беларускіх эсэраў выпусцілі спецыяльную адозву, у якой заклікалі „працоўны беларускі народ не верыць ілжывым абяцанням камуністаў", называлі надзвычайны з'езд БПСР у Мінску сходам баязліўцаў, а беларусізацыю — падманам. Тамаш Грыб, які з'яўляўся галоўным тэарэтыкам БПСР, распаўсюдзіў у тым жа 1924 г. сярод сваіх прыхільнікаў дакумент пад назвай „Нашы задачы". Галоўная яго мэта заключалася ў супрацьдзеянні ідэям зменавехаўства. На больш ста старонках Т. Грыб старанна даказваў, што беларускія эсэры не маюць нічога агульнага з рускімі эсэрамі, што іх ідэалагічная база з'яўляецца цалкам народніцкай. Толькі народніцкая сялянская ідэалогія, сцвярджаў ён, адпавядае сапраўдным жыццёвым інтарэсам беларускага народа. „Увесь адраджэнскі рух беларускага народа ідзе пад народніцкім штандарам, — пісаў ён, — на якім напісана: кожны народ мае права сам сабой распараджацца, перадача ўсёй зямлі сялянству, няма шляхты, усе роўныя, не забывайце роднае мовы, каб не памерлі... Змагаючыся за сацыяльна-палітычнае і нацыянальнае раскрэпашчэнне беларускага народа, за дзяржаўную незалежнасць Беларусі, мы ні на адзін момант не пакідаем думкі аб канцавых мэтах нашых усіх дамаганняў — свабода і роўнасць усіх людзей і народаў. Мы змагаемся за сусветную федэрацыю нацыянальных сацыялістычных рэспублік".**

**У адрозненні ад Т. Грыба і ягонай пражскай групы беларускіх эсэраў большасць прадстаўнікоў беларускага руху станоўча адносілася да падзей у БССР. Лідэр беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў дэпутат польскага Сейма ксёндз Адам Станкевіч 21 лістапада 1926 г. у сваёй газеце „Беларуская крыніца" пісаў: „Хаця я ў шмат чым і не хвалю савецкай палітыкі і стаўлюся да яе крытычна, аднак павінен прызнаць з некаторай засцярогаю, што на культурнай народнай беларускай ніве там дасягнуты значныя поспехі... Факт застаецца фактам, што жыццё беларускага народа там здзвінута з месца, што беларускіх школ налічваецца тысячы".**

**Як бачым, ідэі зменавехаўства пранiклі і ў асяроддзе беларускай хадэцыі. Праўда, у інтэрпрэтацыі хадэкаў яны прынялі даволі своеасаблівую форму. У якасці першага кроку будучага аб'яднання ўсіх беларускіх зямель А. Станкевіч прапанаваў стварыць у Мінску адзіны кіраўнічы цэнтр каталіцкага касцёла для ўсёй Беларусі. „У сучасны момант, — пісала „Беларуская крыніца" (артыкул гэты праз 10 дзён, 25 чэрвеня 1924 г. быў перадрукаваны „Савецкай Беларуссю"), — калі беларускі рух развіўся даволі шырока, калі ўжо ёсць значны лік беларускага каталіцкага духавенства, калі ва ўсходняй Беларусі паўсталі ўжо зачаткі беларускай дзяржаўнасці, дзеля кіраўніцтва каталіцкім касцёлам у Савецкай Беларусі можа і павінна быць створана Беларускае біскупства з біскупам, абавязкова свядомым беларусам. Гэта адзіны спосаб процiў польскага каталіцызму на беларускіх землях, шкоднага як для каталіцтва, так і для беларускага народа. Аб гэтым безадкладна трэба пачаць гутаркі з Рымам і вялікі час, каб Рым зразумеў гэта".**

**Такім чынам, існаванне беларускай савецкай дзяржаўнасці ў рамках БССР партыя Беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў намагалася выкарыстаць у мэтах барацьбы з польскім засіллем у заходнебеларускім касцёле.**

(Працяг будзе)

## Жыла-была легенда

### ПОМСТА ДЗЯКА

Не любілі яго ў вёсцы — чапліві быў, прыдзірлівы. Жонку за абы-што лупцаваў, дзяцей біў. Калі памёр, дык вёска і сям'я з палёгкаю ўздыхнулі. Вядома, хатнія паплакалі, як звычай наказваў, але не так ужо надта смерцю перайmаліся. Але Дзяк, так яго ў вёсцы з-за яго прыгожага голасу называлі, не хутка пакінуў надакучваць. Нават пасля смерці прыходзіў ноччу дахаты, адзеты так, як яго пахавалі, і біў без дай прычыны жонку ды дзяцей. Мо ніхто б і не паверыў, але факт фактам, што ўсе яны ў сіняках хадзілі. Не сцярпела даўжэй жонка і пайшла да свяшчэнніка за парадаю. Расказала, што і як.

— Калі ён не дасць мне спакойна жыць, дык сама сабе нешта зраблю, — сказала.

І тады свяшчэннік параіў узяць Евангелле і крыж і пайсці на магілу памёршага.

Сама ісці пабаялася. Паклікала самага адважнага ў вёсцы мужчыну, паставіла яму паўлітроўку і, калі ўжо добра сцямнела, пайшлі на могілкі.

Стаяць яны так над магілаю, раптам бачаць: сабака з грobу выходзіць ды да іх шчэрыцца. Жанчына Евангеллем засланяецца, а мужчына, вядома, падвыпіўшы, як не лупане крыжам па звяруне — тая і расплылася. Толькі дрэвы навакольныя затрашчалі ды віхор прайшоў.

На нейкі час у вёсцы заціхла. А было гэта ў Пуцілках, ля Саколкі. Усе ўжо нібы і прызабылі аб гэтым, толькі той самы адважны мужчына выхвальваўся, як гэта ён нябожчыка Дзяка другі раз на той свет выправіў. Хто слухаў, хто пажартаваў, што ўдавіца яшчэ нічагаватая, а хто проста шапку на вушы ды адыходзіў.

Але Дзяк не здаўся.

Было гэта ў адзін зімовы вечар, паміж Калядамі і Новым годам. Здарылася так, што той самы адважны мужчына вяртаўся з Саколкі ад кума. Заснежаная дарога вяла паміж пустых палёў. Вакол пуста, ні лесу, ні хацінкі. Адны толькі таполі, якімі была яна абсаджаная, стаялі, як свечкі, ды паблісквалі інеем у месячным святле. Жудасна аднаму ў такой пустэчы. Падняў ён каўнер кажуха, бо мароз шчыпаў за шчокі, ды ішоў памаленьку. Аж бачыць, насупраць, на дарозе, нейкая чорная плямка віднеецца. Пачаткова падумаў, што мо нешта ляжыць. От проста нехта ехаў ды і выпала нешта з саней. Але плямка ўсё расла ды прыбліжалася. І калі пачуўся брэх сабакі, дык мужчына нават і ўцешыўся. „Няйначай, мой Нэра бяжыць — мільгнула ў галаве думка. — Які разумны сабака. Здалёк пачуў гаспадара і выбег насустрач".

Але, як толькі сабака дабег да мужчыны, так і кінуўся таму на плечы.

— Нэра! Нэра! — хацеў яго паклікаць.

Думаў, што той проста ад радасці. Аднак, калі пачуў, што пад вострымі пазурамі распароўся на плячах кажух, спалохаўся не на жарты. Зразумеў, што гэта не яго сабака. Відаць, і не вясковы. Вясковых сабак ён знаў. Давай шнырыць па кішэнях, шукаючы ў іх нечага, чым мог бы залагодзіць раз'юшаную звярыну. А той так і шчэрыцца. Разглядаецца мужчына, з надзеяй па баках, ці нідзе жывой душы. Тут і дарога нейкая незнаёмая зрабілася. А сабака так і скача на яго. Кусаецца і кіпцюрамі дзярэ.

Раптам пачуў на руцэ пякучы боль. Пацяжла кроў. Сабака тады прапаў, як быццам бы яго і не было. Дахаты мужчына дабраўся толькі над раніцай. Рука пухла і доўга, доўга не гаілася.

У вёсцы потым казалі, што гэта помста Дзяка. Тым больш, што з гэтага часу Дзяк перастаў усім дакучаць.

**Міхась Шаховіч**

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, памажы ў нетыповай справе, наконт якой мы бясконца сварымся з жонкай. Ёсць у нас дачка. Яна ходзіць у ліцэй — сёлета пайшла ў першы клас. Калі дагэтуль апраналася яна скромна, у цёмнасіняе і белае, дык цяпер дзяўчына як бы адмянілася. Пачала апранацца надта модна і, на жаль, не заўсёды скромна. Усё было б яшчэ добра, калі б не адносіны да гэтай справы маёй жонкі. Мы жывем наогул небагата, лішніх грошай не бывае. А жонка аж са шкуры вылазіць, каб дачка была апранута ва ўсё моднае і дарагое. Дзеці ж цяпер прыходзяць у школу, апранутыя ў анучы, купленыя за долары. А адкуль мне тыя долары браць?! Ні мне, ні маёй жонцы ў доларах не плацяць, а тое, што мы заробім на дзяржаўнай рабоце, ледзь хапае на жыццё. Але як жа ж гэта так? Іншыя ходзяць у доларавых джынсах, блузачках, куртках, а наша дачка, што, горшая? — кажа жонка. І робіць усё, каб не бала яна горшая. Я ёй тлумачу, што няхай яна будзе не горшая ў іншых адносінах — у вучобе, у паводзінах, у пашане да настаўнікаў... Але дзе там! Перарабляе старыя свае рэчы, сама апранаецца абы-як, сорамна нават і выйсці куды з ёю, а дзяцііі вось — усё. Нясе прадаваць на рынак нейкія падношаныя рэчы, стаіць там, кампраметуецца, але мусіць назбіраць на экстра-вопраткy для дачкі.

А ў апошні час мы з жонкай нават сур'ёзна пасварыліся. Зацягнула яна малую да парыкмахера, зрабілі там з яе бландзінку, ды яшчэ завіўку накруцілі. Сорамна проста глядзець на гэтае дзіця. Калісьці ў мае часы дзеці і апраналіся інакш, і паводзілі сябе інакш. Што з гэтага будзе, не ведаю, тым больш, што жыццё становіцца штораз цяжэйшым, а ўзораў для наследавання — штораз больш не толькі ў заходніх часопісах і фільмах, але і сярод нашых айчынных капіталістаў. Не ведаю, як жыць, мо ехаць куды за мяжу, каб зарабіць крыху тых долараў, бо з маіх заробкаў на такое раскошнае жыццё дачцэ я дазволіць не магу. Ды й, зрэшты, ці і слушнае ўсё гэта? У нашы часы было інакш...

**Незадаволены бацька**

Шаноўны бацька, вельмі прыемна, што праяўляеш ты такія клопаты пра сваю дачку. Фактычна таксама павінна думаць і твая жонка. Гэта ёй належыць першынства ў выхаванні дзіцяці, а выхоўваць яго трэба з вялікай развагай. Дзіця павінна ведаць сваё месца і ў хаце, і ў школе. Твая жонка занадта вялікую ўвагу прысвячае знешняму выгляду дачкі, аддае ёй апошняе, занядбоўваючы сябе, а ці тая зразумее гэта належным чынам?! І ці не выкліча ў яе гэта нейкай пагарды ў адносінах да сваёй маці, да сваіх бацькоў наогул, да настаўнікаў у школе?! У пэўным момантце тваёй дачцэ будзе здавацца, што вы ёй ужо не партнёры, што яна лепшая за вас, разумнейшая, хоць з гэтым розумам бывае вельмі па-рознаму... Можа і добра, што калісьці ў школе абавязвалі цёмнасінія і белы колеры. Прынамсі там усе дзеці былі аднолькавыя на выгляд. Цяпер жа людзі часта хочуць прадстаўляць сабою большае, чым уяўляюць сабою сапраўды. А гэта часта канчаецца надта трагічна. Відаць гэта з прыкладу многіх кіназорак, якія пакончылі жыццё самагубствам, з паводзін моладзі, якая масава выязджае на Захад, захопленая маляўнічасцю знешняга бляску іх жыцця.

Усё павінна быць у меру. На ўсё прыйдзе свой час. Калі дачка ваша будзе вартасным чалавекам, будзе мець добрую прафесію, няхай сабе на здароўе апранаецца. Але пакуль што і з яе вымогаў, і з паводзін яе мамы вылазіць комплекс жабрака.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, быццам еду я міні-аўтобусам у СССР. Апынулася дзесьці, можа, у Саколцы, ці ў нейкай іншай мясцовасці, адным словам, спыніліся мы недзе па дарозе. Быццам бы нейкі прыпынак. Я ведаю, што аўтобус павінен заехаць па мяне. У той час я зайшла на нейкі рынак, дзе было поўна яблыкаў, арэхаў, міндалю. Па дарозе набіраю поўную сумку ўсяго гэтага і хачу ўжо плаціць. Быццам бы маю поўную жменю грошай, але заплаціць няма чым, бо сярод гэтых папяровых грошай няма польскіх залатовак. Тады, здаецца мне, я аддала назад тую торбу і іду на таксі. Пачала бегчы з рэчавым мяшком на плячах, пагубіла чаравікі. У той час аўтобус ад'ехаў, а я адна засталася ў чужым горадзе і... прачнулася. Астроне, што можа абазначаць гэты мой сон?

**Мірка**

Мірка! Сон твой не вельмі добры. Сапраўды, відаць, чакае цябе нейкае падарожжа, але ўсё гаворыць за тое, што не будзе яно найлепшае. Калі б табе ўдалося заплаціць грошы за купленыя на рынку ласункі, магло б гэта абазначаць поспех у тваіх справах. Табе ж, на жаль, гэтага зрабіць не выпала, бо не мела ты пры сабе залатовак. І гэта быў бы, бадай, найважнейшы элемент тваіго сну. Аднак жа пра нейкую сварку сведчаць і тыя яблыкі, якіх было поўна на рынку. А найгоршае яшчэ тое, што ты, бегучы за тым аўтобусам, пагубіла чаравікі. Таму лічу, што з тваёй паездкі наогул можа нічога не выйсці. У кожным разе, добрага падарожжа не спадзявайся.

**Астрон**






Крыху салодкага

### КРЭМ З СЫРУ

На 1 пачку гемагенізаванага сырку (25 дэкаў) трэба ўзяць 2 яйкі, 5 лыжачак цукру, 2 кілішкі вішнёўкі, 1 шклянку вішань з сіропу, або свежых у сезоне (без костачак).

Жаўткі з цукрам сцерці на аднастайную масу. Калі ўжо будзе пушыстая, перамяшаць з сырком і алкаголем. Бялок збіць на цвёрдую пену і далікатна перамяшаць з сырнай масай, пераліжыць у шкляны посуд, на гэта — адцэджаныя вішні, паліць крыху вішнёўкай. Патрымаць у халадзільніку, каб добра застыў.

### КРЭМ З СУШАНЫХ СЛІЎ

На 25 дэкаў сушаных сліў трэба ўзяць 3/4 літра малака, 6 жаўткоў, 8—10 лыжачак цукровай пудры, 1 пачку ванільнага цукру, паўшклянкі салодкай смятанкі, 1 кілішак лікёру.

На некалькі гадзін перад падрыхтоўкай дэсерту слівы трэба спаласнуць, намачыць, а калі змякнуць, закіпяціць з цукрам, адцадзіць, астудзіць і аддзяліць ад костачак. Жаўткі збіць з цукрам, уліць у збітую масу гарачае малако, перагатаванае з ванільным цукрам. Збіваць на пары, пакуль маса не стане густою. Дакладна перамяшаць са слівамі і пераліжыць у шкляныя місачкі. Упрыгожыць бітай смятанкай, а перад падачай на стол паліць кожную порцыю лікёрам.

### ЯЕЧНЫ КРЭМ

На 4—5 яек трэба ўзяць 5 лыжак цукру, 1 пачку галяреткі (жэле) ў парашку, паўшклянкі салодкай смятанкі.

Галярэтку (жэле) падрыхтаваць паводле рэцэпту на ўпакоўцы. Яйкі з цукрам збіць над парай. Калі атрымаецца пушыстая густая маса, дадаваць да яе па лыжачцы астуджанае жэле і ўвесь час мяшаць, пасля чаго пераліць у шкляны посуд. Упрыгожыць смятанкай, збітай з цукрам.

Жадаем сваім чытачам прыемна сустрэць Новы Год!

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ





Удзельніцы беларускага дэкламатарскага конкурсу для вучняў падставовых школ Ася Троц і Мар'еля Юшчук з бельскай школы № 3.
Фота Яніны Чэрнякевіч.

Ніл Гілевіч

## СНЕЖНЫ ДЗЕД

Колькі шуму, колькі смеху:
Лепім дзеда мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары кацілі ўтрох —
І паставілі ля плоту.
Дзед стаіць, хоць і без ног?
Замест рук — уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.

Ну і дзед! Відаць, яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут на начах
Наганяць на зайцаў страх,
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады!



Ніна Маеўская

## ЛЯЦІ ВЕРАБЕЙКА!

Гэта быў звычайны верабейка, шэранькі і маленькі. А пасадзілі яго ў клетку таму, што Андрэйку захацелася мець дома жывую птушку.

— Але на вуліцы лётаюць зімою адны вераб'і. Яны нават не ўмеюць спяваць, — сказала мама.

— Хачу вераб'я! — сказаў Андрэйка.

І вераб'я злавілі. У клетцы ён біўся, намагаўся вылецець. Але потым прыціх, сядзеў нахохліўшыся і не чырыкаў. Андрэйка даваў яму крупы і ўсё, што сам еў. Верабейка падбіраў ежу неахвотна, а калі хлопчык забываў яго карміць, — гэта здаралася ўсё часцей, — не прасіў ні есці, ні піць! Сядзеў ціха, закрыўшы вочы, бы спаў.

Андрэйка нацешыўся вераб'ём і ўсё радзей падыходзіў да клеткі. Але выпускаць птушку не хацеў.

— Ты дрэнны хлопчык! — сказала мама. — Навошта мучыш птушку? Бачыш, як яна сумуе?

— Птушкі не сумуюць! — не згаджаўся Андрэйка.

Мама сказала так, бо ўчора Андрэйка таксама не карміў вераб'я: быў амаль цэлы дзень на вуліцы. Свяціла сонца, пачаў раставаць снег, з'явіліся лужыны. І Андрэйка доўга пускаў па вадзе караблікі. У яго прамоклі ногі, памерзлі рукі, але ён не звяртаў на гэта ўвагі.

А сёння пачаў кашляць, і на вуліцу яму хадзіць забаранілі. Усе пайшлі на работу. Застаўся ён адзін. Глядзеў доўга ў акно, як бегаюць па двары, гуляюць дзеці. Сумна яму было. І ён паставіў на падаконнік клетку з вераб'ём. Стаў яго паіць. Але верабейка толькі дзюбу памачыў. Не хацеў ён гуляць, забаўляцца з Андрэйкам. І той зноў стаў глядзець у акно. Вось прыляцела гаманкая стайка вераб'ёў. Яны селі на голле вішні, сталі гайдацца і наперабой чырыкаць, — аж у хаце было чутно. І Андрэйкаў верабейка ўстрапянуўся, замахаў крыламі, гатовы ляцець, і голасна зашчабятаў. Андрэйка адчыніў клетку, дастаў птушку і пусціў яе ў адкрытую фортачку.

— Ляці, верабейка! — сказаў ён.

Верабей падляцеў да сваіх братоў на вішні, стаў таксама калыхацца і чырыкаць. Потым уся стая паднялася і паляцела. І не пазнаць ужо было Андрэйку, дзе яго верабей.

## ЗАЙЧЫК ЗНАЙШОЎ МАМУ

Усе чамусьці звалі Андрэйку зайчыкам. Андрэйка прывык да гэтага імя. А калі мама баяла яму казачку пра церамок, у якім дружна жылі мышка-нарушка, воўк-зубамі шчоўк, пеўнік-залаты грабеньчык, зайчык... тут Андрэйка яе перабіваў.

Ён пытаўся:

— Гэта я, так?

— Ты, мой зайчык, — адказвала мама.

— І коцік жыў, і сабачка, і слон, усе звяры, — дапаўняў Андрэйка. — І было ўсім весела.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Іван Юкляеўскі

### ПРА ЛЯНІВАГА КАТА

Кот Васіль лянівы быў:
і мышэй ён не лавіў
і маленькіх мышак.
Ну а есці ён любіў
за траіх увішных.

Малако ён кожны дзень
краў у бабкі Насці.
Сумаваў па ім рамень
з гэтакай напасці.

Вось апоўдні шалапут
к малаку падкраўся —
ды адразу тут як тут
з дзягай бабка Насця.

Кот узвіўся, як страла.
Дзе й лянота ў ім была!

### ГРАМАЦЕЙ

У мяне ёсць коцік Мішка.
Ён чытаць умее кніжкі.
Толькі не магу спазнаць,
Дзе вучыўся ён чытаць.

Разгарнуў букварык Мішка,
Дзе стаялі „К“ і „О“.
Колькі радасці!
Вось кніжка —
Вершык тут пра малако!

### МЫШКА

Мышка-палёўка,
сівая галоўка,
вушкі — ўсё чуюць,
вочкі — пільнуюць.

Цягне пад горку,
у закутак-норку,
у свой церамок
спелы каласок.

Яе ля наветкі
сустракаюць дзеткі.
Голасна пішчаць —
надакучыла чакаць!

Матулі весела,
бо яда прынесена.

Авяр'ян Дзяружынскі

### САРОКА

Ой, сарока-белабока,
Ты лятаеш
Недалёка.
І чаго ты
Ўсё крычыш?
Ні хвілінкі
Не маўчыш.
Папляткарыць
Вельмі любіш,
Толькі час
Дарэмна губіш.
А твае сарачанятні
Ссумаваліся
Без маткі.

Анатоль Порахаў

### ЖАР- ПТУШКІ

Бы жарынкі, ля кармушкі
Мітусіліся жар-птушкі
У чырвоненькіх спадпічках,
Напалохалі сінічак...
Верабей да іх з дакорам:
„Не пазналі гіляў! Сорам!“

# Жывая ёлка

На маёй вуліцы ёсць група дзяцей, з якімі я сябрую.

— Ці ў вас ужо ёсць ёлкі? — спытала я, сустрэўшы іх перад святам.

— Ёсць, ёсць.

— Мая аж пад столь. І так пахне! — пахвалілася Даротка.

— А мая яшчэ ў каморы. Бо тата кажа, што шкада сячы дрэвы, і ў мінулым годзе купіў штучную, — тлумачыўся Дарэк.

— Мая ёлка таксама яшчэ не прыбрана, — сказала я, — але хачу вам нешта запрапанаваць.

— А што? — абступілі мяне дзеці.

— Патрэбны будуць нам арэхі, гарбузікі, трохі нітак...

— І каляровых паперак! Будзем рабіць цацкі на ёлку!

— Паперкі не будуць патрэбны. Але прыдадуцца скуркі ад сала, зерне сланечніка. Можа, знойдзеце трохі маку?

— А што будзем рабіць? Навошта сала?

— А знойдзеце, што трэба?

— Напэўна. Зараз прынясем.

Пакуль дзеці прыйшлі, я разагрэла ў каструльцы трошкі маргарыну, знайшла некалькі пластмасавых кубачкаў і карабочкаў.

Дзеці хацелі як найхутчэй ведаць, што гэта будзе. Расклалі на стале прынесеныя скарбы і глядзелі на мяне з цікавасцю.

— Упрыгожым ёлку, — сказала я.

— Салам?! — здзівіліся.

— Ёлку ў лесе, — дадала я.

— І павесім ежу для птушак, — дадумаліся дзеці.

У лупінкі арэхаў мы налілі маргарыну, змешанага з зернем маку. Калі маргарын застыў, мы прымацавалі да лупінак ніткі. Зерне сланечніка і гарбуза мы ўсыпалі ў пластмасавыя кубачкі ад тварожкаў.

Праз скуркі і кавалачкі сала мы працягнулі ніткі. У мяшочкі я насыпала парэзанага на кавалачкі хлеба і арэхаў. Усё мы паскладалі ў кошык і пайшлі ў лес.

На ўскраіне паляны, далей ад дарогі, мы знайшлі невысокую разгалістую елку. На самым версе павесілі сала, трохі ніжэй — арэхі з тлушчам і макам. Кубачкі з хлебам мы прывязалі на галінкі каля самага камля і нізка над зямлёю, а з другога боку прымацоўвалі карабочкі з арэхамі. Зярняткі сланечніка і гарбуза павесілі на галінках на пераменку з рабінаю.

Агледзелі мы сваю работу.

— Нейкая сумная наша ёлка. Нават рабіна яе не ўпрыгожвае, — сказала Маня.

— Ёлка павінна быць каляровай, павінна быць бліскучай, а наша... — пацісную плячыма Дарэк.

— Нічога. Сустрэнемся тут на Каляду, — супакоіла я. — А там пабачым.

Уначы перад калядою выпаў снег. Калі мы з Маняй і Дароткай ішлі ў лес, снег прыемна паскрыпваў пад нагамі. Да нашай ёлкі вялі выразныя, свежыя сляды.

— Ой! — занепакоілася Даротка. — Хто гэта тут ішоў? Можа, зрэзаў нашу ёлку?

Мы пабеглі напрасткі скраем лесу. Раптам з-за дрэва выхіліўся Дарэк з пальцам, прыцíснутым да вуснаў.

— Асцярожна, — шапнуў ён. — Ціхенька падыходзьце і глядзіце.

Наша ёлка ўся мігцела жывымі колерамі.

Сінічкі з чорнымі і блакітнымі галоўкамі віселі на скурках сала і дзяўблі іх заўзята. Па галінках круціўся жоўты, як канарэечка, чыжык і два сіне-блакітныя кавалікі. На рабіне сядзела емялушка з натапыраным чубком, а снягір, відаць, ужо наеўшыся, сеў на самую верхавінку ёлкі і напушыў тоўстае, чырвонае брушка.

Мы стаялі моўчкі. Я бачыла, як дзяўчаткі сціскаюць адна другую за рукі, а Дарэк з уражання аж кавалачак языка высТавіў.

Раптам з-пад ёлкі, адтуль, куды мы клалі кавалкі хлеба, з крыкам вылецела сойка. Бліснула блакітнымі пёркамі крылаў, мігнула чырвона-карычневым брушкам і ўсе птушкі раптам сарваліся з месц. Але не адляцелі далёка. Абселі суседнія дрэвы.

Мы падышлі да ёлкі.

— Ой, няма арэхаў! — крыкнуў Дарэк. — Хтосьці іх з'еў.

— Проста ў лупінках? — здзівілася Даротка.

— Паглядзіце, — паказала я дзецям сляды на снезе. — Бачыце гэтыя лапкі? Тут была вавёрка і забрала арэхі ў сваё дупло.

— Дык вавёрка не спіць зімою?

— Спіць, але часта прачынаецца і выходзіць з дупла. А тут ёй якраз трапілася неспадзяванка.

— Давайце пойдзем, няхай нашыя госці далей частуюцца. Праз два-тры дні зноў прыйдзем. Трэба будзе прынесці новы пачастунак.

Будзем насіць сюды ежу для птушак аж да вясны! — цешыліся дзеці.

— Другой такой ёлкі няма ва ўсім свеце!

— Такая каляровая і цудоўная!

— І нават расчырыканая!

— Бо і птушкі маюць сваё свята! — падсумавала ўсю справу Маня.

**Паводле Э. Буракоўскай**

(Працяг са стар. 9)

## ЗАЙЧЫК ЗНАЙШОЎ МАМУ

Андрэйка ўяўляў, як звяры танцуюць, пабраўшыся за рукі, амаль так, як у садзіку дзеці. А весялей за ўсіх зайчыку. Ён скача, нават на адной назе спрабуе.

Але мама расказвала казку далей, як прыйшоў мядзведзь, залез на церамок і разбурыў яго. Усе звяры разбегліся па лесе.

— І я бег, бег, бег, — захваляваўся Андрэйка — зайчык. Ён нават падхапіўся і сеў на ложку. Раптам закрыў твар рукамі і горка заплакаў.

Не ведаў зайчык, куды бегчы. Добра, што мама выручыла.

— А насустрач іду я, — сказала яна, — і кажу: зайчык, ты будзеш мой сынок.

Андрэйка ўзрадаваўся, прыхіліўся да мамы і супакоіўся.

# Вершы Віктара Шведа

## ПАРАСЯТЫ ЯДУЦЬ СВІНКУ

Першы раз гасцявала
У вясковай бабулі.
Таму так узрастала
Тут цікаўнасць Ганулі.

З горкім плачам дахаты
Прыбягае дзяўчынка:
— У хляве парасяты
Ядуць вашую свінку.

## ХУДАЯ МАМА

Расказала ў хаце Оля,
Калі стрэлася з бацькамі:
— Усе вучні сёння ў школе
Малявалі сваю маму.

— І змясцілася, дачуся,
Я, грамадзіна такая?
— На малюнку ж ты, матуся,
У мяне зусім худая.

## НАЙПРЫГАЖЭЙШЫ МАЛЮНАК

У школе малявалі кветкі
І луг, і поле, і раку.
Ацэньвалі ўсе працы дзеткі,
Падняўшы ўверх сваю руку.

— Я толькі сам, — сказаў Сярожа, —
Стаяў за працаю адной.
— Хіба ж была яна прыгожай?
— Так, гэта ж быў малюнак мой!

# ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 23. Марына Грынкевіч (4 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 13, кв. 40. Каця Марозава (3 клас).

* * *

БССР, 220007, г. Мінск-7, вул. Ляўкова, 10, кв. 39. Ілона Майсеенка (8 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 100. Аляўціна Кадырава (7 клас).

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 17, кв. 41. Уладзік Талако (11 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 18. Юля Дамброўская (9 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 72. Света Кузняцова (8 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 34. Юля Кучук (7 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 14. Аксана Паповіч (9 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 76. Таня Васілеўская (7 клас).

# А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка"

# НІЎКА

## РАСПУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Махавік** — міліцыянер на скрыжаванні.
**Муляр** — цесны бот.
**Мядунка** — пчала.
**Мятліца** — прыбіральшчыца.
**Нагаварыць** — гатаваць халадзец (галярэту).
**Нагруднік** — станік.
**Надбудова** — дах.
**Намардаваць** — пабіць па твары.
**Наносы** — акуляры.
**Насечка** — салома.
**Натураліст** — фігавы лісток або папірус.
**Начоўка** — жанчына, у якой начуецца.
**Незабудка** — памятлівая.
**Ногаць** — бот.
**Нябожчык** — атэіст.
**Паварот** — паўлінава дзюба.
**Паводзіны** — плаванне па вадзе.
**Пагразіць** — утаптаць у балота.
**Пагубіць** — пабіць па губах.
**Падачка** — выйсце замуж (развітанне з дачкой).

„ядань"

## АБ ХОДЖЫ НАСРЭДЗІНЕ

На дзень нараджэння Ходжа запрасіў гасцей. Калі яны расселіся, кожны са здзіўленнем убачыў каля сваёй пасудзіны пяць рублёў.

— Дарагія госці! — сказаў Ходжа Насрэдзін. — Закуска на стале, а выпіўку я кампенсую грашыма. Я не хачу уступаць у паядынак з антыалкагольным указам.

* * *

— У мяне сёння разгрузачны дзень, — з гордасцю сказала дама Ходжы Насрэдзіну. — Я ем толькі яблыкі.

— Дзіўна, — сказаў Ходжа. — Калі я працаваў докерам у порце, у нас цэлы тыдзень быў разгрузачны, апрача выхадных. Але мы ўсё елі: і мяса, і рыс, і хлеб.

**Мурад Тылаеў**
(З „Литературной газеты")

## ПА ЛЬВІНАМУ ЗАГАДУ
(байка)

**Калісьці Леў
Ад самаўладства ашалеў
І так пачаў жывёл вучыць:
— Няхай з вас кожны зарычыць!
Навошта вам выццё, бляянне і мычанне?
Адно павінна быць гучанне.
А хто па-свойму голас падаваць заўзяты,
Таго адпраўлю ў Курапаты.**

**Загад усе прынялі за аснову.
Вось так і мы гублялі мову.**

**Сямён Пацёмкін**

— Гаворыць, што закахаўся ў табе па самыя вушы.

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

609
Толькі зямля ўсіх нас пагодзіць, толькі ўсіх нас зраўняе.
610
Некаторыя людзі сведчаць аб тым, што трэба быць не поўнасцю нармальным, каб стацца поўнасцю геніяльным.
611
Чалавек, які вышэй ставіць уласныя ацэнкі аб сабе, чым ацэнкі чужыя, ніколі не даведаецца аб сабе праўды.
612
Там, дзе ёсць поўная свабода абвінавачвання, але няма поўнай свабоды абароны, выступае поўная няволя.
613
Калі імкнешся развіваць у сабе добрае, ты павінен прыхільна ўспрыймаць тое дрэннае, што аб табе гаворань.
614
Найбольш ваўкоў сярод людзей.
615
Людзі, якія ў кожнай сітуацыі гавораць поўную праўду, у некаторых выпадках могуць быць таксама небяспечнымі, як і тыя, што ў кожнай сітуацыі маняць.
616
Калі аратар ставіць на трыбуне лёгкую шкляначку з вадой, на маё сэрца лягае цяжкі камень.
617
Дзе правы вялікія, а абавязкі малыя — там свабоды многа, а хлеба мала.
618
Маленькі чарвяк ілгунства падточыць найбольшае дрэва кахання.
619
Дзе няма поўнай праўды, там няма поўнага шчасця.

**Алесь Барскі**

## ПАРНАСІК
### чытальніцкая тэстолка на негарантаваных падах

### ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

**У зялёным садочку
Сухі дуб развіўся.
Быў добры сыночак,
Пакуль не жаніўся.**

**А як ажаніўся,
Узяў жонку горду,
Забыў пра матулю,
Пра старонку родну.**

**Ах родная мама,
Ты нас гадавала
І слёзак нямала
Горкіх пралівала.**

**Табе, мама, цяпер
Цяжка рабіці,
Прыхадзі да мяне,
Будзеш жыці.**

**Прыйшла да сыночка,
Яго не застала,
А горда нявестка
Так ёй сказала:**

**„Дзеці ўжо вялікія —
Няма што рабіці.
Ідзі да дачушкі,
Там будзеш жыці".**

**Прыйшла да дачушкі,
Стала ў куточку.
Родная ёй кажа:
„Пашый мне сарочку.**

**Ня буду я шыці,
Бо ня маю сілы.
Няма ў чым хадзіці,
Коўдры дарагія..."**

**Кідай, маці,
Па дзецях хадзіці.
Ідзі ў дом апекі,
Там будзеш жыці.**

**Прыйшла ў дом апекі
Старая хварэці.
Ніхто не прыходзіць
Яе пагледзеці.**

**У дзяцей усе
Хаты харошы,
Усе пастаўлены
За матчыны грошы.**

**Пара табе, мамка,
У зялёны лясочак.
Пакінь нам толькі
Свой кашалёчак.**

**Ах родныя дзеткі,
Я вас гадавала,
Над вашай калыскай
Песню вам спявала.**

**Як у садзе зялёным
Дубок развіваўся.**

**Н. Пушча**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ ТЫ, ВАНЯ, ВАНЕЧКА
(народная)

*Ой ты, Ваня, Ванечка,
Ты душа мая.
Я з табою, Ванечка,
Не нажылася.**

*Ой, паехаў Ванечка
Па свету гуляць,
А мяне пакінуў
Дома гараваць.*

*А мяне пакінуў,
Мяне не адну.*

*Ой, ён мне да й пакінуў,
Дзяціну малу.*

*Гаравала ночаньку,
Гаравала дзве,
А на трэцю ночаньку
Выйшла на зарэ,*

*А на трэцю ночаньку
Выйшла на зарэ.
Ці не едзе Ванечка
На сівом кане?*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Стрымана ♩=76
Сола
Ой ты, Ва_ня, Ва_ не_чка, ты ду_ша ма_ я.
Хор
Я з та_бо_ ю, Ва_ не_ чка, не на_жы_ ла_ ся.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 5.200 + 1.300 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

– prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy),
– rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach),
– prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 2/90. Nakład 5.300. U-3.